## РОЗГАЛАС

### БЫВАЙ, БЛАКІТНАЯ МАРА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

замарожваць не прадугледжваецца. Пры гэтым у банку падкрэсліваюць: на 40 працэнтаў «паўлаўскай» (замарожанай цяпер) кампенсацыі — індэксацыя налічвацца не будзе. Тым, хто пасля 1 студзеня «патрывожыў» свой рахунак ці ўвогуле закрыў яго, банк падае надзею: мяркуецца, што ўклады, якія значыліся менавіта на 1 студзеня, усё роўна будуць праіндэксіраваны.

Аднак перавядзём нарэшце дух і спытаем сябе: радавацца нам усяму гэтаму ці не?

Спачатку паспрабуем зразумець. Саюз рухнуў. Вядома, рухнулі, пахаваны і ўсе яго былыя абавязацельствы перад яго былымі грамадзянамі. Будзем мець гэта на ўвазе. І тым не менш, сумна ўсведамляць, што дзяржава (няхай цяпер ужо рэспубліка) па сутнасці распісалася ў банкруцтве перад сваімі грамадзянамі. Маецца на ўвазе беспрацэнтная рэчавая пазыка, якую яшчэ зусім нядаўна правялі з такой помпай і па якой трэба было б разлічвацца канкрэтным таварам у наступным годзе...

А цяпер наконт індэксацыі. Вядома, 20 працэнтаў — гэта няшмат. І ўсё-такі лепш, чым нічога. Праўда, улічым, што цэны ў асноўным сёлета раслі, ды яшчэ як. А вось наконт «сёлетняй» індэксацыі — ні слова...

Увогуле ж, у сувязі з гэтымі мерамі, якія заклікааны хоць неяк кампенсаваць страты людзей, варта чакаць, пры цяперашнім стане эканомікі, новага ўзлёту цэн.

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

*Прэзідэнт МАК Хуан Антоніо Самаранч:*

# «МЯНЕ Ў МІНСКУ ЗРАЗУМЕЛІ...»

**Талін, Рыга, Вільнюс, Мінск, Кішынёў, Масква — па такому маршруту здзяйсняе свой чарговы ў жыцці вояж па краінах — новых членах сусветнай алімпійскай супольнасці — Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніо Самаранч. І гэта — на працягу аднаго тыдня! Сапраўды, па-добраму можна пазайздросціць 72-гадоваму «бацьку» сям'і алімпійцаў. Дарэчы, пасля гэтай паездкі ў дыпламатычным пашпарце сеньёра Самаранча будуць візы аб наведванні 170 (!) краін — членаў МАК.**

**У панядзелак і аўторак Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта знаходзіўся ў Мінску.**

Літаральна адразу пасля прыбыцця ў беларускую сталіцу сеньёр Самаранч накіраваўся на сустрэчу са Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаславам Кебічам. Як і прынята ў такіх выпадках, размова была дзелавой і выключна афіцыйнай. Выказаўшы задавальненне ад асабістага знаёмства з кіраўніком міжнароднага алімпійскага руху, Вячаслаў Францавіч зазначыў, што ўспрымае візіт Самаранча як вялікую павагу да нашай рэспублікі, народа, і ў прыватнасці беларускіх спартсменаў. «Мы перажываем цяжкія часы, — сказаў В. Кебіч, — аднак, нягледзячы на гэта, зробім усё, каб прыняць актыўны ўдзел у сусветным спартыўным руху, дастойна выступіць на чэмпіянатах свету, Алімпійскіх гульнях, іншых буйных спаборніцтвах». Беларускі прэм'ер-міністр выказаў упэўненасць, што Міжнародны алімпійскі камітэт і ягоны прэзідэнт паспрыяюць нашай рэспубліцы ў пераадоленні цяжкасцей, стабілізацыі становішча...

Сеньёр Самаранч расказаў аб прызнанні міжнародным спартыўным супольніцтвам у якасці раўнапраўнага члена Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь. Мэтай свайго візіту ён назваў неабходнасць асабіста пазнаёміцца з кіраўніцтвам краіны— новага члена МАК, са становішчам вялікага спорту ў ёй. «У вас у Беларусі многа выдатных спартсменаў, — адзначыў Х. А. Самаранч, — і я хачу спадзявацца, што яны і надалей будуць з поспехам выступаць на міжнароднай арэне. Я вельмі разлічваю на тое, што ўрад Рэспублікі Беларусь дапаможа станаўленню маладога Нацыянальнага алімпійскага камітэта».

Вітаючы Хуана Антоніо Самаранча ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, старшыня парламента Станіслаў Шушкевіч, шчыра кажучы, здзівіў прысутных веданнем праблем алімпізму не толькі ў рэспубліцы і былым Саюзе ССР, а і ў свеце ў цэлым. «Мы добра знаёмы з вашай дзейнасцю, — падкрэсліў Станіслаў Станіслававіч, — і мы заўсёды захапляемся тым, як умела вядзеце вы такі адказны карабель такім правільным курсам...» С. Шушкевіч прыгадаў цяжкасці алімпійскага руху ў 1980—84 гадах, з якіх сеньёр Самаранч змог з гонарам вывесці алімпійскую сям'ю... «Гэты перыяд, думаецца мне, прайшоў беззваротна, — сказаў кіраўнік Вярхоўнага Савета Беларусі. — Рэспубліка праводзіць адкрытую палітыку па ўсіх без выключэння напрамках шматграннага жыцця і дзейнасці, у тым ліку і ў пытаннях спорту. Мы вітаем разумнасць знойдзеных Міжнародным алімпійскім камітэтам рашэнняў, іх добрую адпаведнасць рэаліям палітычнай абстаноўкі ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Не буду ўтойваць: мы марым і з нецярпеннем чакаем таго часу, калі наша алімпійская зборная будзе выступаць пад беларускім флагам...»

Тонкі, удумлівы палітык і дыпламат, Хуан Антоніо Самаранч не мог, натуральна ж, не звярнуць увагі на дабразычлівасць Старшыні парламента Беларусі, ягоную зацікаўленасць у пошуку месца рэспублікі ў сусветным алімпійскім руху. Прэзідэнт МАК быў такі ж шчыры і адкрыты. Падкрэсліўшы важнасць і надзвычай вялікае значэнне ролі першых асоб краін — членаў Міжнароднага алімпійскага камітэта ў далейшым развіцці і ўдасканаленні алімпізму ў свеце, сеньёр Самаранч запэўніў, што МАК акажа Беларусі пасільную дапамогу — як матэрыяльную, так і маральную. «Я хачу падзякаваць вам за канструктыўны падыход да разумення тых праблем, якія трэба будзе вырашыць, — падкрэсліў ён. — Аб'яднаная каманда Садружнасці Незалежных Дзяржаў на Алімпійскіх гульнях у Барселоне летам гэтага года — гэта ўжо рэальнасць, якую нельга змяніць. У Алімпійскай вёсцы арганізатарамі Гульняў усё даўно разлічана і размеркавана... Але, думаю, не гэта галоўнае. МАК змог прапанаваць выйсце, і дасягнута, такім чынам, галоўнае: мы абаранілі спартсменаў і забяспечылі іх удзел у Алімпійскіх гульнях. Я не сумняваюся, што сярод пераможцаў Алімпіяды будуць беларускія спартсмены і ў гонар іх перамог на флагштоку ўзнімецца ваш нацыянальны флаг і прагучыць Дзяржаўны гімн Беларусі. А ўжо на наступных зімовых Гульнях 1994 года ў нарвежскім горадзе Ліліхамеры Беларусь зможа выступаць самастойнай камандай».

Прэзідэнт МАК параіў кіраўніцтву нашай рэспублікі і самім спартсменам не парываць сяброўскіх сувязей з алімпійцамі іншых суверэнных краін СНД і ў будучым. А яшчэ ён паабяцаў Станіславу Шушкевічу, што Міжнародны алімпійскі камітэт акажа пасільную дапамогу юным спартсменам і ўсім дзецям з чарнобыльскай зоны.

Зацікаўленай і дзелавой была гутарка Самаранча і членаў дэлегацыі МАК з работнікамі спартыўных арганізацый Беларусі, вядомымі нашымі спартсменамі і трэнерамі, журналістамі. Заслужаныя майстры спорту Алена Бялова, Уладзімір Парфяновіч, Марыя Іткіна, заслужаныя трэнеры Віктар Наважылаў, Уладзімір Навумаў і іншыя цікавіліся ў сеньёра Самаранча будучыняй алімпійскага руху ў свеце, праблемамі барацьбы з допінгам, аказання практычнай дапамогі як асобным відам спорту, так і спартсменам, асабліва тым, якія закончылі свае выступленні ў вялікім спорце.

Адказваючы на наша пытанне: «Ці задаволены сеньёр Самаранч візітам у Мінск?», прэзідэнт МАК сказаў: «Вельмі задаволены. Мне здалося, што мяне тут зразумелі. А гэта — важная ўмова таго, што алімпізм у маладой суверэннай Рэспубліцы Беларусь набудзе патрэбны размах і ўвасабленне. Я са свайго боку зраблю ўсё, каб падтрымаць яго».

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*«Мінскі кірмаш. Вясна-92»:*

# Меркурый правіць вялікі баль



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

«Арыён» — тэлевізары, відэатэхніку і многае іншае. Прычым, гарантуецца высакакласнае абслугоўванне набытай тэхнікі на працягу года, а частка тавараў ідзе і за рублі. Адсюль і попыт. Начальнік інфармацыйна - аналітычнага аддзела акцыянернага таварыства, кандыдат тэхнічных навук Аляксандр Ставіцкі выказвае задавальненне:

— Ведаеце, з-за паломкі трэйлера ў Мінск мы прыехалі позна ноччу, але нас усёроўна чакалі. Наогул абслугоўванне на кірмашы пастаўлена на салідную аснову: нам нішто не перашкаджае паспяхова гандляваць.

А вось швейцарская фірма «Даратрэйд» на «Мінскім кірмашы» ўжо у чацвёрты раз. А тут правіла: калі ты пастаянны кліент, то табе прадастаўляецца дзесяціпрацэнтная скідка пры аплаце паслуг, якія аказвае кірмаш.

— Яшчэ лепш, каб скідка была дваццаць працэнтаў, — жартуе дырэктар фірмы Джузепе Каручы. — Калі ж сур'ёзна, то гэта зроблена сапраўды па-рыначнаму, і нам прыемна — эканомім сваю валюту.

На жаль, такой скідкі наша газета «Звязда» не атрымала (хоць мы і маем тут свой стэнд, але ж выйшлі на кірмаш упершыню). Тым не менш, трэба і нам працаваць па-рыначнаму, апраўдваць сваю кірмашовую «візітную картку», у якой сказана, што адзін з асноўных арыенціраў газеты — падтрымка прадпрымальніцтва, прыватнага бізнесу.

...Экспанатаў на кірмашы— сотні і сотні, і гэта, асабліва ва ўмовах эканамічнага крызісу, усяляе некаторы аптымізм. Добра і тое, што прадпрыемствы і калектывы розных форм уласнасці, без ранейшай, штучна падаграваемай, канфрантацыі вядуць хітрамудрую, цывілізаваную канкурэнцыю ў барацьбе за пакупніка. Усё гэта вельмі патрэбна спажыўцу, эканоміцы ў цэлым. Мэта кірмашу — не толькі прыбытак, але і ўсталяванне прамых камерцыйных сувязей, развіццё міжнароднага гандлю і таварна- сыравіннага абмену паміж рэгіёнамі і дзяржавамі СНД.

Упэўнены, што не памылюся: ва ўсёй вялікай зале нельга знайсці хоць бы аднаго, хто не быў бы супраць тых палітычных і міжнацыянальных бар'ераў, якія ўзніклі дзе-нідзе на шляху гандлю. Вось, напрыклад, думка прадстаўніцы фабрыкі «Элегія» (г. Тбілісі) Галіны Арашыдзе:

— Для вырабу біжутэрыі, на якой мы спецыялізуемся, нам патрэбен метал. Мінскія прадпрыемствы яго нам прапанавалі ўжо. Але ж сыравіну прыйдзецца везці праз усякія новыя граніцы, ды і ў нашай рэспубліцы не ўсюды яшчэ знята блакіроўка чыгункі. Каго могуць радаваць такія абставіны? Адкажу так: каб жыць добра і заможна, усім нам патрэбна адпаведная эканамічная прастора, узаемавыгадны гандаль. Калі людзі ідуць адзін да аднаго з таварамі, то — як паказвае ўся чалавечая гісторыя — змаўкаюць гарматы...

Будзем гандляваць. Гэтаму спрые і чарговы «Мінскі кірмаш». Адкрываючы яго, першы намеснік Старшыні Саўміна рэспублікі М. Мясніковіч пажадаў усім гасцям толькі паспяховага, удачлівага гандлю. Далучымся да гэтага пажадання і ўсе мы, радавыя спажыўцы-чалавекі.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

* Такую мэблю з лазы прапануе наваполацкая вытворча - камерцыйная фірма «Планета».

* Бытавы дазіметр «Палессе» вытворчасці брэсцкага завода «Цветатрон» спадабаўся многім удзельнікам кірмашу.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ




### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

◆ **Дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў Амерыкі Джэймс Бейкер заявіў, што эканамічныя рэформы ў Расіі даюць першыя паспяховыя вынікі. Паводле ягоных слоў, каб атрымаць дапамогу Захаду, былыя савецкія рэспублікі павінны прытрымлівацца цяперашняга курсу на дэмакратыю, захоўваць усе пагадненні ў галіне кантролю над узбраеннямі. Бейкер зазначыў, што аб'яўленая на мінулым тыдні дапамога Расіі ў 24 мільярды долараў была дастасавана да моманту найбольшай неабходнасці падтрымаць прэзідэнта Барыса Ельцына.**

◆ ЗША аб'явілі, што асігнуюць 10 мільёнаў долараў на стварэнне новага міжнароднага эканамічнага цэнтра ў Кіеве, дзе будуць працаваць спецыялісты па ўзбраеннях былога Саюза ССР. Гэты крок зроблены пасля стварэння такога ж цэнтра ў Маскве для прыцягнення да работы былых савецкіх ядзершчыкаў. Акрамя Злучаных Штатаў, цэнтр фінансуюць Японія і Канада. ЗША заявілі, што асігнуюць на маскоўскі цэнтр 25 мільёнаў долараў. Мэта стварэння такіх цэнтраў — папярэдзіць магчымасць работы гэтых вучоных у краінах «трэцяга свету», якія спрабуюць стварыць зброю масавага знішчэння. Акрамя гэтага, амерыканскае агенцтва па міжнароднаму развіццю аб'явіла аб плане аказання дапамогі фермерам у краінах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. План прадугледжвае накіраванне ў краіны на працягу трох гадоў каля 2 тысяч амерыканскіх спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, якія дапамогуць фермерам у працэсе прыватызацыі.

◆ **Сусветная арганізацыя аховы здароўя лічыць хваробы сэрца ворагам нумар адзін. У выніку гэтых хвароб кожны год у свеце памірае прыкладна 12 мільёнаў чалавек. СААЗ паведаміла, што смяротнасць ад інфаркта і інсульта павялічваецца ў краінах, што сталі на шлях развіцця, і з'яўляецца галоўнай прычынай смерці ў развітых краінах.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

◆ Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын заклікаў народных дэпутатаў пацвердзіць прадстаўленыя яму ў лістападзе мінулага года надзвычайныя паўнамоцтвы. Толькі пры моцнай прэзідэнцкай пазіцыі бачыць Ельцын магчымасць працягваць далей эканамічныя рэформы. У сваім выступленні на з'ездзе народных дэпутатаў Расійскай Федэрацыі прэзідэнт абараняў рыначныя эканамічныя рэформы свайго ўрада. Ён перасцярог парламент ад канфрантацыі і заявіў, што парламентарыі не маюць права на палітычныя гульні. Нягледзячы на крытыку, урад мае намер працягваць свой шлях рэформ. Прыватызацыю былой дзяржаўнай маёмасці неабходна паскорыць. Словы Барыса Ельцына аб тым, што патрэбны мільёны ўласнікаў, а не сотні мільянераў, выклікалі ў Крамлі авацыю.

◆ **11 рэспублік былога Саюза ССР могуць стаць членамі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця — так званага Усходнееўрапейскага банка. Дырэктары гэтага банка адобрылі прыняцце ў яго наступных рэспублік СНД: Расіі, Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Таджыкістана, Туркменістана, Украіны і Узбекістана. Адменена палажэнне аб абмежаванні выдачы крэдытаў гэтым краінам. Да канца 1994 года 40 працэнтаў штогадовых крэдытаў могуць быць прадстаўлены краінам Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а 60 працэнтаў — могуць атрымаць Албанія, Балгарыя, Венгрыя, Чэха-Славакія, Польшча, Румынія, Югаславія, Эстонія, Латвія і Літва.**

◆ Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын падпарадкаваў свайму кантролю былы савецкі Чарнаморскі флот. Так ён адрэагаваў на адпаведны крок Украіны, якая напярэдадні падпарадкавала свайму камандаванню ўсе ўзброеныя сілы на ўкраінскай тэрыторыі. Указы абодвух прэзідэнтаў маюць у асноўным сімвалічнае значэнне, паколькі галоўнае камандаванне над флотам застаецца ў СНД.

◆ **Былы дзяржаўны і партыйны кіраўнік ГДР Эрых Хонекер у адпаведнасці з газетнымі паведамленнямі перавёў на банкаўскія рахункі Швейцарыі 240 мільёнаў марак. Афіцыйныя прадстаўнікі берлінскіх службовых улад не захацелі ні пацвердзіць, ні адмовіць гэтыя паведамленні. Супрацоўнікі федэральнага крымінальнага ведамства ў час вобыску ў архіве СДПГ натыкнуліся на ўказанне, у адпаведнасці з якім з моманту прыходу Хонекера да ўлады ў 1971 годзе грошы пераводзіліся ў Швейцарыю.**

### «БІ-БІ-СІ»

◆ Злучаныя Штаты Амерыкі прызналі незалежнасць Славеніі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны. Прэзідэнт Джордж Буш сказаў, што ЗША прызнаюць былыя югаслаўскія рэспублікі ў межах, якія існавалі да крызісу, і плануюць неадкладна пачаць кансультацыі аб устанаўленні з імі дыпламатычных адносін.

◆ **Германія аб'явіла аб адкрыцці свайго консульства ў Македоніі. Гэта рашэнне прынята пасля таго, як Еўрапейская супольнасць адклала на пэўны час пытанне аб прызнанні яе суверэннай дзяржавай.**

◆ Пасля прыбыцця ў Лівію спецыяльнага пасланніка Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Уладзіміра Пятроўскага з мэтай урэгулявання канфлікту аб выбуху на авіялайнеры над Шатландыяй, у Трыпалі яго сустрэлі натоўпы дэманстрантаў. Каб расчысціць яму шлях, паліцыі давялося прымяніць слёзатачывы газ. Вялікабрытанія і ЗША дабіваюцца ад Лівіі выдачы двух чалавек, што абвінавачваюцца ў арганізацыі выбуху на авіялайнеры ў 1988 годзе. Калі Лівія не падпарадкуецца патрабаванням, з наступнага тыдня ААН увядзе супраць яе санкцыі.

# ЗАМЕЖЖА

### У ВЫТРЫМАНАГА РАБАЎНІКА «ЗДАЛІ» НЕРВЫ

КАСЕЛЬ. Злоўлены на месцы злачынства паліцэйскім патрулём праз 10 хвілін пасля налёту на ашчадную касу рабаўнік (31 год, нежанаты) выкінуўся ў час допыту ў паліцай-прэзідыуме з акна.

Як паведаміла агенцтва ДПА са спасылкай на прадстаўнікоў паліцыі, на рахунку злачынцы ўжо былі тры банкаўскія грабяжы: па 30.000, 15.000 і 2.800 марак. На гэты раз ён уварваўся ў філіял ашчаднай касы і, пагражаючы пісталетам, прымусіў служачых пакласці ў пластыкавы пакет 50.000. Але на гэты раз яму не пашанцавала.

Дастаўлены ў паліцыю, затрыманы, паводле слоў паліцэйскіх, паводзіў сябе спакойна, «дружалюбна і ахвотна» даваў паказанні, «чыстасардэчна ва ўсім прызнаўся». І раптам, калі супрацоўнік, які вёў допыт, накіраваўся ў суседні пакой, рабаўнік нечакана кінуўся да акна і выскачыў. Упаўшы з вышыні 12 метраў, ён атрымаў небяспечныя для жыцця траўмы.

### «ДЭЗЕРЦІР» З КАРАЛЕЎСКАЙ КАНЮШНІ

**ІЕРУСАЛІМ. «Дзёрзкую вылазку» на тэрыторыю праціўніка зрабіў прыгажунжарабец з канюшні караля Іарданіі Хусейна. Як паведаміла ізраільскае радыё, у час прагулкі па берагавой паласе паблізу іарданскага порта Акаба каралеўскі скакун нечакана скінуў на зямлю сядзеўшага на ім конюха і кінуўся ў воды Чырвонага мора.**

**Пераадолеўшы водны рубеж шырынёй у некалькі соцень метраў, чацвераногі парушальнік граніцы выйшаў на бераг ля ізраільскага марскога курорта Эйлат. Мясцовыя паліцэйскія вельмі насцярожана паставіліся да нечаканага госця: праверыўшы перш за ўсё, ці не замаскіраваны ў збруі каня высакароднай крыві выбуховыя прыстасаванні, яны перадалі яго затым гарадскому ветэрынару.**

**Жарабец-уцякач, відаць, будзе ўсё ж вернуты законнаму ўладальніку. Аднак зрабіць гэта не так проста. Ужо цяпер нечаканая праблема паставіла ў тупік супрацоўнікаў ізраільскага МЗС: справа ў тым, што Іарданія і Ізраіль фармальна ўсё яшчэ знаходзяцца ў стане вайны. А значыць, чацвераногі прыгажун павінен разглядацца або як перабежчык, або як ваенны трафей...**

### ЧУЖАЯ КРОЎ НЕ ДАПАМОЖА

**АБІДЖАН. Да 10 гадоў турэмнага зняволення прыгаварыў суд Сьера-Леонэ чараўніка, які зрабіў спробу рытуальнага забойства дзіцяці. Як паведаміла выходзячая ў Манровіі газета «Віжн», судовы працэс, які праходзіў у размешчаным у цэнтры рэспублікі гарадку Макені, выклікаў небывалую цікавасць. Сотні людзей штодзённа стаялі ў чарзе ля залы суда, каб трапіць на пасяджэнні. У якасці рэчавых доказаў на судзе былі прадстаўлены ўмела выкананая з дрэва маска бабуіна і зроблены з пальмавых лісцяў касцюм. «Людзі-бабуіны» ўжо не ўпершыню прыцягваюцца ў Сьера-Леонэ да адказнасці па падазрэнню ва ўчыненні рытуальных забойстваў. Асабліва частымі былі падобныя выпадкі ў гэтай невялікай заходнеафрыканскай краіне два-тры гады назад. Па бытуючых у Заходняй Афрыцы павер'ях, часткі цела і кроў людзей, выкарыстаныя пры вырабе талісманаў, прыносяць іх уладальнікам удачу і магутнасць.**

### ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ ДЛЯ ГАНДЛЯРОЎ СМЕРЦЮ

АФІНЫ. Пакаранне смерцю для падпольных гандляроў небяспечным наркотыкам «Крэк» прапанаваў увесці спецыяльны камітэт грэчаскага парламента. На апошнім пасяджэнні камітэта, які займаецца пытаннямі барацьбы з наркаманіяй, была выказана сур'ёзная трывога ў сувязі з абвастрэннем гэтай праблемы.

Па ўзроўню наркаманіі Грэцыя пакуль што «моцна адстае» ад іншых дзяржаў Заходняй Еўропы, але і ў гэтай краіне колькасць наркаманаў няўхільна расце. Толькі за апошнія два гады ў адных Афінах ад прынятых «звышдоз» ядавітага зелля памерлі 120 чалавек.

## НЕ ХАПАЙЦЕСЯ ЗА СЯКЕРЫ

За якія толькі сферы дзейнасці ні хапаюцца сённяшнія прадпрымальнікі і камерсанты. Зараз галоўнае ў бізнесе — знайсці тую лакуну, якая яшчэ нікім не занята для распачынання справы. Вельмі вынаходлівым у гэтым сэнсе аказалася мінскае малое прадпрыемства «Скорсер» па адкрыванню дзвярэй. Калі вы, напрыклад, забыліся ключ у кватэры ці вашы дзверы нечакана закрыліся, — не трэба хапацца за сякеру. Дастаткова пазваніць па тэлефоне, і вопытныя спецыялісты на спецыяльнай машыне праз балкон зойдуць у вашу кватэру і адчыняць дзверы. Ды і расцэнкі на сённяшні дзень не такія ўжо і злосныя. Так, калі небарака жыве на сёмым паверсе, яго выратуюць усяго за 225 рублёў. Паводле нашых даных, гэта першае малое прадпрыемства падобнага роду ў Беларусі. Праўда, кліентаў у яго чамусьці пакуль малавата.

Малюнак М. ЧАРКАСАВА.

## Злачынцы ходзяць на завод па прапусках

**Звальняць з работы без тлумачэнняў і папярэджанняў прагульшчыкаў, раскрадальнікаў матэрыяльных каштоўнасцей і асоб, схільных да п'янства на рабочым месцы, — такое рашэнне прынята на Мінскім трактарным заводзе.**

Як адзначалася на нарадзе ў намесніка генеральнага дырэктара па выхаваўчай рабоце, кадрах і рэжыму Кляменція Каратая з кіраўнікамі цэхаў, мера гэта строгая, але справядлівая. Яна, на думку прысутных на нарадзе, прымусіць некаторых бесклапотна - недысцыплінаваных завадчан задумацца пра свой лёс напярэдадні навіслага над намі беспрацоўя.

Якая, напрыклад, карысць вытворчасці ад 150 чалавек, якія ўжо сёлета былі затрыманы ў п'яным выглядзе на прахадных прадпрыемства. Не зменшылася і колькасць раскрадальнікаў. Толькі за апошнія тры месяцы на МТЗ папярэджаны крадзеж на суму больш як 100.000 рублёў. Спрыяла крадзяжу і непрадуманая сістэма звальненняў. Не сакрэт, што некаторыя асобы, якія звальняюцца з завода, умудраюцца не здаваць пропуск, а потым заходзяць па ім на тэрыторыю завода з карыслівымі мэтамі. Таму зараз табельшчыкам дадзена ўказанне: у дзень падачы работнікам заявы на звальненне забіраць у яго пастаянны пропуск, пагашаць яго і здаваць у бюро прапускоў разам з заяўкай начальніка цэха або аддзела на выдачу дакумента тэрмінам да 3 дзён для афармлення разліку.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## У Барысаве туга з літаратурай?

У зале чакання аўтавакзала «Усходні» тры «пэтэвушнікі» з Барысава адкрыта выкралі са століка чатыры кнігі мастацкай літаратуры, якія належалі малому прадпрыемству «Стары свет».

Узбуджана крымінальная справа. Між іншым, у Крымінальным кодэксе напісана, што за такія дзеянні належыць да сямі гадоў з канфіскацыяй. Так што рэкамендуем цікавіцца літаратурай не толькі мастацкай...

# Новы метад лячэння касавокасці

ВАША ЗДАРОЎЕ

**Яго прапанаваў іркуцкі вучоны Ігар Рабічаў, які адмовіўся ад традыцыйнай оптыкі — лінзаў, прызмаў і да т. п. Прынцыпова новая методыка заключаецца ў комплексе практыкаванняў на арыгінальным прыборы — бінарыметры і дазваляе аднаўляць бінакулярны зрок у тэрмін ад аднаго месяца да года. Асноўныя пацыенты Рабічава і яго калег — дзеці і падлеткі ад 6 да 18 гадоў. Работа па ўдасканаленню перспектыўнага спосабу лячэння касавокасці вядзецца ў Навукова-даследчым інстытуце біялогіі Іркуцкага дзяржаўнага універсітэта.**

Касавокасць, а яна бывае прыроджанай або набытай у выніку траўмы галаўнога або спіннога мозгу, з прычыны ўскладненняў пасля сардэчных, лёгачных і інфекцыйных захворванняў, пазбаўляе чалавека якасцей бінакулярнага зроку. Цяжка правільна вызначаць адлегласць, увесь свет уяўляецца плоскім, прадметы дваяцца. Аб эстэтычным баку і гаварыць не прыходзіцца.

Ідэя лячыць касавокасць па-новаму наўрад ці прыйшла б Ігару Рабічаву ў галаву, калі б яму не давялося, будучы аспірантам, папрацаваць з бінарыметрам, які вынайшаў яго навуковы кіраўнік прафесар кафедры фізіялогіі Іркуцкага універсітэта Леў Магілёў. Прыбор гэты дазваляе выклікаць трывалы прасторавы зрокавы эфект пры зліцці двайных адлюстраванняў. Больш таго, з яго дапамогай можна з высокай дакладнасцю вымяраць адчуванні пацыента, даючы ім якасную і колькасную ацэнку. Перад выпрабоўваемым на бінарыметр ставяцца празрыстыя пласцінкі з чорнымі кружочкамі (іх камплект уяўляе сабой набор тэстаў). Па ўказаннях даследчыка пацыент так мяняе становішча вачэй, што кружкі спачатку дваяцца, а затым зліваюцца ў адно адлюстраванне — напрыклад, аб'ёмны дыск, які як бы вісіць у паветры, такі рэальны, што да яго хочацца дакрануцца рукой. Рухі абодвух вокаў робяцца строга каардынаванымі, што і адрознівае здаровага чалавека. Такога ж эфекту імкнуцца дасягнуць і з дапамогай традыцыйных аптычных прыстасаванняў. Так, яны дазваляюць пазбавіцца ад дваення, але прасторавы зрок усё ж не аднаўляецца, касавокасць часта вяртаецца праз нейкі час.

А што калі не пазбаўляцца ад дваення, вырашыў Ігар Рабічаў, наадварот, свядома выклікаць яго і затым, вар'іруючы тэстамі на бінарыметры, дабіцца зліцця адлюстраванняў? Ці не навучыцца чалавек бачыць «правільна», падобна да таго, як асвойвае элементарную хадзьбу інвалід, які адкінуў мыліцы? Оптыка адыгрывае тую ж ролю, што і мыліцы, — далоў іх!

У першай групе з 90 пацыентаў былі вылечаны 45. Акрылены поспехам малады вучоны ўзяўся за распрацоўку комплексу трэніровачных практыкаванняў, вызначаючы, якія з іх даюць найбольшы эфект пры парушэнні той або іншай функцыі сістэмы зроку. Сёння накоплены і асэнсаваны багаты матэрыял. Удасканалена методыка лячэння. Цяпер ужо загадчыку лабараторыі нейрабіялогіі кандыдату біялагічных навук І. Рабічаву куды больш ясна ўяўляецца складанейшая карціна функцыянальнага ўзаемадзеяння вачэй, таго, як у мазгах адбываецца інтэграцыя двух адлюстраванняў. У залежнасці ад ступені парушэння бінакулярнага зроку лячэння касавокасці па метаду Рабічава іншы раз дае вынік праз лічаныя дні, бывае, расцягваецца і на год. У аснове курса — дваццаць практыкаванняў на бінарыметры, з якіх складаецца мноства камбінацый. Лячэбныя сеансы праводзяцца штодзённа па 15—20 хвілін.

— Пакуль мы бяромся дапамагаць дзецям ад шасці і падлеткам да 18 гадоў. І, на жаль, не ўсякую касавокасць выпраўляем, — расказвае Ігар Рабічаў. — Паказаннем да лячэння служаць сіметрычнае размяшчэнне вачэй і малыя вуглы касавокасці (сыходнага, разыходнага, вертыкальнага) — да 10 градусаў. Аднак бываюць і выключэнні. Памятаю, звярнулася да нас жанчына 36 гадоў. Пасля пералому шыйнага пазванка ў яе ўзнікла страшная касавокасць з вуглом 60 градусаў! Медыкаментозна яго зменшылі да 40 градусаў. Астатняе мы знялі практыкаваннямі за год... Мы ўпэўнены, што ў нашага метада вялікая будучыня.

**(РІА).**

